
DC
VERTIGO
PREACHER™
для дарослых
No. 4
JUL 95
$2.50 US
$3.50 CAN
£1.50 UK
SUGGESTED FOR MATURE READERS
COMICS .BY
КОМІКСЫ ПА-БЕЛАРУСКУ
Прапаведнік
№4
Пераклад:
Артур Барадачоў
Афармленне:
Сяргей Козыраў
vk.com/comics_by
GARTH ENNIS
STEVE DILLON
GLENN FABRY 95




**PREACHER** 4. July, 1995. published monthly by DC Comics, 1700 Broadway, New York, NY 10019. POSTMASTER: Send address changes to PREACHER, DC Comics Subscriptions, P.O. Box 0528, Baldwin, NY 11510. Annual subscription rate $30.00. Canadian subscribers must add $8.00 for postage and GST. GST # is R125921072. All foreign countries must add $8.00 for postage. U.S. funds only. 
Printed in Canada.
DC Comics. A division of Warner Bros.–A Time Warner Entertainment Company


Ну што, рызыкнеш, пастар?
Ну давай, выкарыстай свой чароўны галасок. Загадай мне кінуць пісталет.
Адно слова. Давай! Толькі **адно слова**.
Тады я змагу прыкончыць і цябе, і тваю бабу.
А ну кінь пушку ты, тупая купа лайна!
Добра...
Страляй, падлюга. Ну, пачынай.
Мая прапанова дзейнічае, хлопец. Ты вымаўляеш хоць слова – і абойма ляціць ёй у твар.
Ты... ты **вырадак**!
Ты ж гэтага жадаеш, так? Бачу **па тваіх вачах**.
**Ну дык давай!**


Скажыце мне калі ласка, доктар Кэсідзі: якое б вы прызначылі лячэнне пры куля- вым параненні з буйнакаліберрнай зброі, улічваючы вялікі крывацёк і множныя разрывы тканак?
"Ну, лепш за ўсё ў дадзеным выпадку папоўніць запас крыві за кошт парачкі лайнюкоў і пачакаць, пакуль раны зацягнуцца самастойна...
...Але першапачаткова я б параіў пацыенту знайсці гэтага лайню- ка Апякуна і на поўнай хуткасці загнаць грузавік у яго смярдзючую дупу".
А для чаго патрэбна гэтая працэдура?
"Ну, па-першае, яна выклікае ў пацыента станоўчыя эмоцыі, а гэта з'яўляецца важным крокам на шляху да акрыяння...
А па-другое, гэта дапаможа выратаваць прападобнага Джэсі Кастара ад немінучай смерці ад рук вышэй- згаданай пачвары".
Але доктар, Джэсі Кастар выму- шана спыніў працэс кармлення пацыэнта, а потым назваў яго "бязбожніцкай дрэнню"...
"Так, але больш дэталёвае даследаванне сітуацыі дазваляе нам выявіць наступнае: насамрэч Джэсі Кастар вельмі добры хлопец. А становішча тады было вельмі напружанае, таму ўсе былі на нервах. І потым, калі пацыент не дапаможа яму, ён будзе паскудна адчуваць сябе прынамсі год".
Вы абсалютны маркітун, доктар Кэсідзі.
Я задаволены, што прыйшоў менавіта да вас!


Пачынаю страляць праз тры секунды.
Узаемна.
Адзін...
Табе мяне не напалохаць, вылюдак.
Два...
Адсмакчы, а?
Абасралася.
У рэшце рэшт спалохалася, самадаечка.
Таа-ак... Але не цябе.


Выдатна.
Працягнем праз хвіліну, сябрук.
Я спадзяваўся, что мы сустрэнемся. Жадаў вярнуць табе даўжок за тузін маіх хлопцаў.
**Вырадкавы ты гад!**
Божа ты мой…
Я сказаў: **пачакаць хвіліну**!
**Джэсі!**
За чатырнаццаць.
Толькі дакраніся да гэтых сваіх рэвальвераў, лайнюк…
Э-э-э… Я перадумаў.


Гэй,
ты!
Твая матулька –
самадааайкааа!


Кэсідзі...?
Узрадуйся... боскі чалавек...
Бо ты вырātаваны.
Талалуй.
Дык вось.
Што датычыцца маіх рэвальвераў.



Вунь той ашалотак толькі што ўехаў у цябе на грузавіку. Ты што, на яго зусім не злуешся?
На ўсё свой час.
І ён, і пастар сваё атрымаюць.
Адразу пасля цябе.
ННЫЫЫ!*
*НЕ!
ННЫЫЫ!
*НЕ!
Нххх ыыыбх таaa!*
* Не забівайце тату!


ХОПІЦЬ!
Трасца мне ў бок! У гэтага хлопца твар як дупа!



Нават не дакранайся да іх, маркітун!
Таак...
Ты мяне чуў.
Я заб'ю цябе.


Чортавы ідыёт!
А вось калі б я быў на яго месцы, мае белыя порткі ўжо б былі карычневымі...
Што ж...
Мабыць. Калі-небудзь. Але ня зараз.
Шххх тххх шхыы, таа?*
* Што такое дупа, тата?
Пакуль ты вымушаны скакаць пад маю дудку, крыважэрны печаны гад. І, калі я загадаю табе зляпіць куліччыкі з лайна...
...ты зможаш адказаць толькі: "Якой формы, прападобны Кастар?"
Я мяркую, тыя лайнюкі, якія прыслалі цябе, ведаюць, што мне трэба.
Прывядзі каго-небудзь з іх, ЗАРАЗ ЖА!
Вы чулі, што ён сказаў.
Спускайцеся самі, інакш я прыйду за вамі, і тады я вам не зайздрошчу.


Ну дык
УГЛЕДЗЬЦЕ ж,
смертныя...
...ПАСЛАНЦА НЯБЁС
У СЛАВЕ ЯГО...
Вось
толькі давай
без пантоў.
...добра.


Увогуле, ты што за гак?
Я **Дэбланк** – першы сярод **адэфі**, што сядзяць злева ад Пасада Святога...
Адзін з **анёлаў Госпада Нашага**.
У мяне аж аргазм.
Калі ты палюеш на **Генезіса**, ты ведаеш, што я магу. Таму я проста папрашу апавесці мне праўду...
І ты паслухаешся, так?
Так.
У такім выпадку пачнем з таго вялікага сакрэту, які вы ўсе так жадаеце захаваць.
Дык ты не саромейся!
Яны заб'юць мяне за гэта...
Уся справа ў...
Госпадзе Нашам.


Ён **знік**.
...
Не зусім той адказ, які я чакаў пачуць. Як гэта "**ён знік**"?
Ну, ён сышоў.
Аднойчы ён сабраў усіх нас, сваіх анёлаў, і сказаў, што яму трэба здзейсніць вандраванне на Зямлю, а потым раптоўна знік. З таго часу пра яго нічога ня чутна.
Ён пакінуў Царства Нябеснае на **серафімаў**, анёлаў-ваяроў, якія сядзяць з правага боку ад Пасада Святога.
Якім чынам Бог мог уцячы?
Мы, адэфі, вучоныя. Малыя анёлы. Хоць мы і робім усю працу ў Раі... Але, уласна кажучы, якая розніца?... Галоўнае, што...
Ён уцёк.


Вось і мне цікава. Але факт застаецца фактам: ён знік. І галоўнае – нічога не змянілася. Ніякага апакаліпсіса, ніякіх ільвоў, што з ягнятамі ляжалі, і коні тых вершнікаў са стайні нікуды ня дзеліся.
**Калі**? Калі ён знік?
Калі нарадзіўся Генезіс.
У той самы момант, калі Генезіс быў створаны, Бог уцёк. І, дарэчы, вельмі паспяхова.
Спужаўся новай ідэі, а? Таму што яна магутная, ці таму што ён не падзяляе свет на белае і чорнае?
Я ня ведаю. Але менавіта мы былі вымушаны разгортваць усё лайно. Лавіць гэтае стварэнне, разбірацца з бацькамі…
**Вы** забілі яго бацькоў?
Я ў гэтым не ўдзельнічаў. Серафімы… Бацька Генезіса быў серафімам, таму для іх было справай гонару разабрацца з ім. Ганьба роду і таму падобнае…
А мы, адэфі, былі вымушаны **ўтрымліваць Генезіс**…
Правільна, вы ж не маглі адпусціць на волю нешта настолькі моцнае, так? Хто-небудзь мог выкарыстаць яго, каб даведацца пра вашу **маркітаваную страшную тайну**!
Ну… так.
Але, я мяркую, нават ты згадзішся, што мэта ў канкрэтным выпадку апраўдвае сродкі.


Добра, слухай: ты нас раскрыў. Але хто табе **паверыць**?
У цябе ўсё тая ж праблема: **атэісты**. Скажы людзям, што Бог знік, і з цябе будуць кпіць таксама ж, як кпілі, калі ты казаў, што ён **існуе**.
Прыгадай Анівіль, прападобны.
Яшчэ ня позна ўсё выправіць. Мы можам дастаць Генезіс з тваёй душы. У нас ёсць метады.
Ну дык давай...
Нельга ж проста бадзяцца па свеце з сілай, роўнай сіле **Бога**.
Значыць яна **роўная** сіле Госпада?
Э-э-э ну...
Лічу, ты маеш рацыю. **Ніхто** ў такое не паверыць. Калі, зразумела... Калі Бог сам не апавядзе людзям пра гэта.
Ведаеш што? Я пайду яго шукаць. Ня ведаю, куды і колькі часу я на гэта змарную – але мне ўсё роўна. Я **знайду** яго...
... і прымушу паведавіць дзе-цям сваім пра ўсе непаразуменні.


Ты
ня можаш...
Знікні, ашалотак.
Да сустрэчы,
пастар.
Ну, я, бадай,
пайду...
Не. Мы пойдзем.
А ты можаш
застацца і
адклосціўць
сябе ў дупу



Здаецца, мы прапусцілі самае цікавае.
Калі тут было так весела, як і ў "Дваццатцы", мне не шкада.
Ведаеце, з таго часу, як я перасек мяжу штата, я заўсёды п'ю вельмі лайновую каву. Ці гэта вы зноў распаліліся?
Угу. Гэй, а мабыць вы мне адсмокчаце? Гэта было б так люба...
Ххх таа бххх уыы дххш?*
* З татам усё будзе добра?
Э-э-э ну...
Слухай, бяз крыўдаў – але ня мог бы ты адвярнуцца, пакуль я з табой размаўляю? Проста ад твайго твару трохі ванітуе...
Нххх пхххх!*
* Няма праблем!
Дзякуй.
Так... Карацей. Пеніс твайго бацькі быў адарваны і захрас у простай кішцы. Мы ўжо на гадзіну спазніліся з мікрахірургіяй, але, прынамсі, ў яго стабільнае становішча.
Зараз мы адвязем яго ў шпіталь...
Ссс... с-сын?
Таа!*
* Тата!


Тххх ызмхххх сыыымх!
Мхх таа ызмхххх сыыымх!*
* Ты гаворыш са мной!
Мой тата размаўляе са
мной!
Прынясі
мне… мой
пісталет…
Вхххш сххх, таа! Тххх пххх
зхххххху сыыы мххх зтххх
мыыыы, ыыыыыы ссссс
у ссссххх!*
* Усё, што скажаш,
тата! Ты ўпершыню
загаварыў са мной
з таго моманту, як я
стрэліў сабе ў твар!
Цххх уххх ыыхх, таа!
Мхх зххх пыы уххх
спыыы…*
*Цяпер усё зменіцца, тата!
Мы зможам пачаць усё
спярша…
Цыыы
уххх быы
ддддхххх!*
BADAM
PARAMEDIC
*Цяпер усё
будзе добра!


Н... ннн... ныны...*
* Н... ннн... нееe...
Ныныны!*
* Нееееe!
Таааааааааа!*
* Татааааааааа!
Маркітаваць мае вочы!


Дык значыць вось яно як, так?
Ну і сраць я на вас хацеў! Лепш я **буду** паўшым! Вы проста купка самазадаволеных лайнюкоў, якія толькі і могуць, што лётаць і загадваць, пакуль **мы** выконваем усю брудную працу!
Цяпер самі разгортвайце гэтае **лайно**!
Жадаў бы я пабачыць, як вы будзеце кіраваць гэтым месцам. З нецярплівасцю чакаю той момант, калі **вы грандыёзна напартачыце**! І ведаеце, што я вам адкажу, калі вы **прыпаўзяце да мяне, каб папрасіць дапамогу**?
Я адкажу...


А тым часам...
У некалькіх мілях ад Даласа:
Ыытххыы, Джххх Кххх! Ыытххх зххх сххх ыыы! Ыппххх ыымххх тххх кх дххх – **Ыыкхн**! Ыссссххх...
**Дыытхх!***
* Я адпомшчу табе, Джэсі Картар! Адпомшчу за крыў свайго бацькі! І хай у мяне твар як дупа – шыкоўна! **Я стану**...
**...Дупатварым!**
Сан-Францыска:
Дзіўныя рэчы здараюцца на Поўдні, мілорд.
Гэта ня наша справа, Харкорт. А цяпер, калі ласка, дай мне гэты слоік і адшукай Боба і Фрэдзі.
На мяжы Луізіяны і Тэхаса:
Вох, Джэсі... Ты зноў збіўся з правільнага шляху...
Бабулі гэта не падабаецца...
Ле Сэн-Мары, паўднёвая Францыя:
Гэта можа спатрэбіцца Граалю, Цьеры. **Трымайце мяне ў курсе**.


FIVE ACES DINER
Мы сталі галасаваць і за некалькі дзён дабраліся да Х'юстана.
У першую ноч Кэсідзі недзе бадзяўся да золку. Вярнуўся ён з цалкам зацягнутымі ранамі, новымі акулярамі і крывёй на вуснах.
**Я вырашыў не запытваць яго.** У рэшце рэшт ён ня кінуў мяне ў бядоце.
Я і да гэтага часа ня ведаю, чаму ў Цюліп у торбачцы пісталет, а яна ня ведае, чаму я ўцёк ад яе і стаў святаром.
Недарэчна? Ну, **яна** пачала першая.
Максімум тры дні – і я зацягну яе ў ложак.
Адна рэч мяне турбуе: Апякун Забойцаў, які схаваўся і чакае свой час. Я, зразумела, магу ўжыць супраць яго Слова, вось толькі мне жудаснавата…
Глядзець яму ў вочы, калі я гэта раблю.
Аднак яму мяне не спыніць. Я касцьмі лягу, але знайду Бога.
І перш чым я паспяваю ўвайсці ў забягалаўку, Джон Уэйн з'яўляецца з ніадкуль і ўзнагароджвае мяне шырокай і здеклівай усмешкай.


Тады я абарочваюся
і ўсміхаюся ў адказ.
У ПОЎНЫМ УЗБРАЕННІ
GARTH ENNIS – WRITER
STEVE DILLON – ARTIST
MATT HOLLINGSWORTH – COLORIST
CLEM ROBINS – LETTERER
JULIE ROTTENBERG – ASSOC. EDITOR
STUART MOORE – EDITOR
PREACHER CREATED BY
GARTH ENNIS AND STEVE DILLON